Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ВЫХОДЗІЦЬ ТРОЙЧЫ У ТЫДЗЕНЬ.

Рэдакцыя і Адміністрацыя — Бостра-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 8—12 і 3—5.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. 3 безработных за усю абвестку 2 рублі.

Год I. Панядзелак, 9 чэрвеня 1919 г. № 19.

## Сягоньня у 11 гадз. нараніцы адкрываецца БЕЛАРУСКІ ЗЬЕЗД Віленшчыны і Горадзеншчыны.

Вуліца Востра-Брамская 9, бывшыя па-базыліянскія муры.

## Ажыуленьня бальшавізму.

Цяперашняе палажэньня бальшавікоў пачынае патроху узмацовывацца. На усіх фронтах сілы бальшавіцкія падняліся, дзякуючы надзвычайным высілкам бальшавіцкага ураду. Агітацыя па гарадох цэлых атрадоў зложаных з кабет, адозвы нават у кінэматаграфах, мабілізацыя сярод рабочых па хфабрыкам усё тое зрабіло вялікі рух, які адзначыў сябе у тым, што чырвоная армія каля Казані, Сымбірска і Самары адкінула войскі Калчака на 120 да 160 вёрстаў. На фронце Румыніі усё больш і больш бьюць бальшавікі румынскія войскі.

Усё гэта зрабіло аграмаднае уражэньне у Расеі. Троцкі раптам зрабіўся героям камуністаў і пачынаюць называць яго расейскім Напалеонам.

Праўда на паўночным фронце каля Петраграда ды на заходнім фронце бальшавікам ні надта танцуе, але да поўнага пагрома яшчэ далёка. Бюллетэны усіх штабаў войск, якія ваюющь проціў бальшавікоў, падцьверджаюць, што сілы бальшавіцкія узрасьлі.

У Эўропе бальшавізм так сама пачынае узрастаць. Камуністычны урад у Вэнгрыі працуе добра, тэррора ніякага німа, хаця працўнікі ураду сідзяць на дармовых харчах; усі мусяць працаваць, але ўсім плоцяць добра. Дагэтуль Вэнгрыя здалела ўжо пабіць румынаў і чэхаў. Газэты пішуць, што вэнграм памагае нямецкі генэрал Макензэн са сваім войскам, каторае праз Чэхію хоча прабрацца дамоу. Факт, што чэхі моцна разбіты і адступаюць. У Славацыі, каторая была злучана з Чэхіяй ідзе бунт процiў чэхау, тое самае робіцца у Сілезіі. Славацыя пранікла бальшавіцкім духам і маняцца там увязваць каммуну.

Несчасьця чэхау выклікалі узмацаваньне у Чэхіі камуністычнага руху. Камуністы чэскія распаусюджуюць праклямацыі, у каторых напісана вось што:

«Урад Массарыка, як наагул кожны буржуазны урад, ня здольны прывясьці у парадак справы Чэхіі так, каб не праўлялася кроу найлепшых сынау нашай бацькаушчыны, каб змучаны вайною чэскі народ мог урэшці узяцца да творчай працы. Гэтае заданьне можа выпаўніць толькі урад, які будзе складацца з людзей варожых імпэрыялізму ды капіталізму.»

Сама сабою разумеецца, што узмацаваньне бальшавізма на фронтах выклікаць мусіць і узмацаваньне ідэі у массах. Пашырэньне бальшавізма у Эўропе грозіць паважна цэлай акцыі Антанты дзеля умацаваньня міру.

Найбольшай угрозай можа быць злучаньне расейскіх камуністау з вэнгерскімі а потым з нямецкімі. Вядома агульна, што немцы зброяцца і абецаліся зрабіць помсту. Як ні як але сучаснае палажэньне у Эўропе прадстауляецца досыць цёмна і грозна.

*Юры Олельковіч.*



## Справа беларускага біскупа.

Колькі днёў таму назад «Nasz Kraj» падаў вестку аб тым, што віленскі біскуп Матулевіч, будучы у Варшаве, прасіў апостольскага візытатара монсіньёра Ратті аб назначэньні беларускага біскупа-суфрагана.

Ня ведаем на сколькі гэта праўда, адзначым толькі тое, што біскуп беларус нам—беларусам каталікам—патрэбны і мы яго мусім мець і будзем. З цікавасцю мы чыталі палеміку готтэнтотскага «Dziennika Wilenskiego» з паважанай рэдакцыяй газэты «Nasz Kraj». Ведаем як нашыя ксяндзы-полёнізатары глядзяць на беларусаў, як іх польшчаць, як вядуць паміж іх прапаганду, каб запісываліся у палякі і ведаем добра, чаго нам трэба дабівацца. Нацыянальнай крыўды і шкоды, зробленай беларусам, мы гэтым душэхватам ніколі не забудзем.

Аб справе беларускіх казаньняў у касьцёлі мы маем шмат цікавых матэрыялаў. Ведаем як да беларусаў адносіліся біскупы палякі, а як біскупы беларусы, як напрыклад біскуп Сымон. Мы бачылі на ўласныя вочы як зьдзекаваўся біскуп Цепляк над ксяндзом Астрамовічам за яго беларускія казаньня, як біскупу Цепляку памагаў у гэтым бывшы мінскі губернатор Гірс. Ксёндз Астрамовіч 2 гады за тое, што ён беларус сядзеў без парафіі у Менску, жывучы з ласкі сваіх коллегаў-ксяндзоў, якія яму часам давалі адпраўляць набажэнства за бедных.

Кляссычныя па сваему езуіцка-полёнізатарскаму зьместу лісты біскупа Цепляка да ксяндза Астрамовіча мы чыталі у арыгінале і абурываліся да глыбіны душы.

Усе гэтыя матэрыялы паслужаць нам довадамі патрэбнасьці і канешнасьці атрымаць ад Рымскае Курыі свайго біскупа-беларуса.

Тутэйшыя касьцельныя уласьці аднасяцца страшэнна варожа да ідэі беларускай мовы у касьцёлі. Але у гэтым яны расходзяцца з камісcыяй de propaganda fide у Рыме.

У Менску справа стаіць іначэй. Новы біскуп Лозінскі, як паляк ні надта быў з пачатку прыхільны беларусам. На ві-

